*Жыве Беларусь!*



# БЕЛАРУС

№ 464 • Лістапад 1999 г.
Год выд. 49

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
**Address:** P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. **Price $3.00**



*С. Шушкевіч І. Сурвілла Р. Гарэцкі С. Шарэцкі*

## ЗВАРОТ

## ДА НАРОДУ БЕЛАРУСІ, УСІХ БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ, ПАРЛАМЭНТАЎ І ЎРАДАЎ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ СТРАН

20 ліпеня 1999 года скончыўся тэрмін паўнамоцтва Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі, нелегітымнымі сталі і ўсе прызначаныя ім структуры.

З гэтай нагоды, згодна з 105-ым артыкулам Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, ды прынясеньня Прысягі новаабраным Прэзыдэнтам паўнамоцтвы Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь перайшлі да Старшыні Вярхоўнага Савету Сямёна Шарэцкага, а абавязкі Старшыні Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь — да Першага намесьніка Старшыні Вярхоўнага Савету Віктара Ганчара. У бліжэйшыя дні павінен быць сфармаваны і новы Урад. Згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь павінны адбыцца выбары Прэзыдэнта.

Але А. Лукашэнка і створаны ім рэжым, выкарыстоўваючы антыканстытуцыйныя мэтады, працягваюць утрымліваць уладу. Больш таго, яны і далей прадпрымаюць свае намаганьні па аб'яднаньню Беларусі с Расеяй у адну дзяржаву, прэзыдэнтам якой марыць стаць А. Лукашэнка. На жаль, ва ўсім гэтым іх падтрымліваюць многія расійскія палітыкі, якія таксама жадаюць адначленьня імпэрыі.

Мы зьвяртаемся да народу Рэспублікі Беларусь і ўсіх беларусаў сьвету з заклікам спрыяць станаўленьню ў Беларусі канстытуцыйнай улады, усталяваньню незалежнай дэмакратычнай праваой дзяржавы.

Мы зьвяртаемся да парламэнтаў і ўрадаў дэмакратычных дзяржаў з заклікам не прызнаваць узурпатара і ўтвораныя ім у Беларусі антыканстытуцыйныя структуры, спрыяць імкненьню беларускага народу да незалежнасьці, падтрымаць права беларусаў вызначаць свой лёс праз дэмакратычна абраную ўладу.

**Старшыня Рады**
**Беларускай Народнай Рэспублікі**
**І. Сурвілла**

**Першы Старшыня Вярхоўнага Савету**
**Незалежнай Рэспублікі Беларусь**
**С. Шушкевіч**

**Старшыня Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь,**
**падпісант Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь**
**М. Грыб**

**Прэзыдэнт Згуртаваньня Беларусаў**
**Сьвету «Бацькаўшчына»**
**Р. Гарэцкі**

Вільня
27 жніўня 1999 года

**БЕЛАРУСКА-РАСЕЙСКАЯ ДАМОВА АБ САЮЗНАЙ ДЗЯРЖАВЕ — ГЭТА ПАШЫРЭНЬНЕ РАСЕЙСКАЕ ІМПЭРЫІ Ў ЗАХОДНІМ КІРУНКУ**

## ЗАЯВА РАДЫ БНР

19 кастрычніка 1999 г. быў апублікаваны праэкт «Дамовы аб стварэньні Саюзнае дзяржавы». Дакумэнт гэты, заплянаваны да подпісу Барысом Ельцыным і Аляксандрам Лукашэнкам ў сьнежні сёлета — гэта трывожны паказьнік экспансіі Расеі на захад коштам свабоды й незалежнасьці Беларусі. Падзея гэтая адбываецца ў атмасфэры зьнікаvньня й перасьледу ў Беларусі палітычных апанэнтаў Лукашэнкі (чый прэзыдэнцкі тэрмін скончыўся 20 ліпеня 1999 г.) ды масавага гвалтаваньня правоў чалавека й прынцыпаў свабоды. Дамова дае магчымасьць Маскве пашырыць сваю ўладу на захад спосабам падтрымкі ў Беларусі, у межах запраэктаванай канфэдэрацыйнай дзяржавы, паслухмяны Крамлю рэпрэсійны рэжым.

Хоць дамова гаворыць пра «сувэрэнітэт» і «незалежнасьць» абедзьвюх дзяржаваў у межах будучага саюзу, у запраўднасьці гэта будзе акт анэксіі Беларусі Расеяй. Падпарадкаванае становішча Беларусі адлюстраванае ў структуры саюзных органаў. Небясьпека страты Беларусьсю свае незалежнасьці пабольшваецца апантаным жаданьнем ейнага аўтакратычнага лідэра аднавіць дзяржаву, якая будзе, кажучы ягонымі словамі, магутнейшай за былы Савецкі Саюз.

У аблічы задумы беларускага незаконнага прэзыдэнта й маскоўскіх імпэрыялістаў, Злучаныя Штаты й Вялікабрытанія павінны стаць на абарону Беларусі. Такое забавязаньне ўскладаецца на іх у моц Мэмарандуму аб Запэўненьні Бясьпекі Беларусі, падпісанага прэзыдэнтам Білам Клінтанам і прэм'ерам Джонам Мэйджарам у Будапешце 5 сьнежня 1994 году. Мэмарандум, якім завяршылася далучэньне Беларусі да Пакту аб непашыраньні ядзерных узбраеньняў, заключае ў сабе забавязаньне «паважаць незалежнасьць, сувэрэнітэт і тэрытарыяльную цэласьць» Беларусі.

Небясьпечныя наступствы беларуска-расейскай саюзнай дамовы відавочныя таксама для міжнароднай супольнасьці. Дамова прадбачыць, што становішча старшыні саюзнае Вярхоўнае Рады, у кампэтэнцыі якога запісана права на міжнародныя перамовы, будзе займаць па чарзе прэзыдэнт кожнае са сфэдэраваных дзяржаваў. Гэта дасьць беларускаму дыктатару Лукашэнку зь ягонымі антызаходнімі паглядамі доступ да расейскага ядравага арсэналу, каб шантажаваць сьвет.

Прыдуманая зьдзелка Масквы й Менску можа таксама прывесьці да забурэньняў унутры самое будучае канфэдэрацыі, асабліва ў Беларусі, дзе 17 кастрычніка 1999 г. адбылася 20-тысячная дэманстрацыя супраць зьліцьця з Расеяй. Дэманстрацыя паказала, што маладыя беларусы ўсё мацней падаюць голас ў абароне незалежнасьці свае краіны.

Паколькі пасьля 20 ліпеня 1999 г. легітымнасьць Лукашэнкі як прэзыдэнта Беларусі стала аб'ектам спрэчак як унутры краіны, гэтак і на міжнародным форуме, падпісаная ім дамова аб саюзе з Расеяй будзе адкінутая дэмакратычнай апазыцыяй ў Беларусі ды пастаўленая пад сумлеў расейскімі лібэраламі. Канчальным вынікам гэтай дамовы будзе ўзмацненьне забурэньняў як у Беларусі, гэтак і ў Расеі.

4 лістапада 1999 г.
Атава, Канада

**Івонка Сурвілла**
**Старшыня Рады БНР**

## ДА ЧЫТАЧОЎ ГАЗЭТЫ «БЕЛАРУС»

Як Вы ўсе заўважылі, у выхадзе газэты, быў перабой. У першую чаргу, перабой быў выкліканы «фінансавай праблемай» — не хапала гроша аплаціць выдаткі газэты.

Цяпер, дзякуючы падтрымцы арганізацыяў БНР, Фунд. Крэчэўскага, БАЗА і БІНІМу ды колькіх ахвярных суродзічаў, выхад газэты на недалёкую будучыню — забясьпечаны. Аднак, каб загарантаваць бесперабойны друк газэты на далейшую будучыню, патрэбная большая дапамога шырэйшага грамадства.

Гэтым мы, рэдакцыя газэты «Беларус», зьвяртаемся да чытачоў, беларускага грамадзтва, неадкладна дапамагчы газэце.

Шлеце цяпер праз газэту калядныя віншаваньні ды далучыце шчодрае ахвяраваньне. Гэтым вы загарантуеце далейшы выхад «Беларуса».

Вясёлых Сьвятаў, з пашанай

**Рэдкалегія «Беларуса»**

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю $30 на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.
*Передрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.*

## СУСТРЭЧА КІРАЎНІКОЎ КРАІНАЎ АБСЭ Ў СТАМБУЛЕ

Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» і Партыя Беларускага Народнага Фронту звяртаюць увагу на агрэсіўную палітыку інкарпарацыі, якую праводзіць Расея супраць Беларусі, супрацоўнічаючы з незаконным рэжымам Лукашэнкі.

Нас непакоіць, што актывізацыя расейскай палітыкі, накіраванай на падрыў і ліквідацыю сувэрэнітэту Беларусі, супадае з ваеннай агрэсіяй Расеі на Каўказе супраць чачэнскага народу Ічкерыі. Гэта дзеяньні аднаго напрамку і адной агрэсіўнай імпэрскай палітыкі, якая праводзіца рознымі мэтадамі.

Мы глыбока ўзрушаныя вынішчэньнем чачэнскага народу, што выконвае расейскае войска ў Ічкерыі, і жахлівай гуманітарнай катастрофай насельніцтва, штучна створанай рускімі ваеннымі ў Чачэніі.

Мы абураныя жорсткімі, нематываванымі рэпрэсіямі, зьневажэньнем асобы і катаваньнямі беларусаў, якія праводзіць прамаскоўскі акупацыйны рэжым Лукашэнкі на Беларусі (што асабліва засьведчыла пабоішча людзей у Менску 17-га кастрычніка гэтага году).

Мы зьвяртаемся з прапановай да ўдзельнікаў Саміту краінаў АБСЭ ў Стамбуле:

— прызнаць Расею краінай, якая ажыцьцяўляе дзеяньні і палітыку агрэсіі;

— паставіць пытаньне аб прыняцьці міжнародных санкцыяў супраць гэтай краіны;

— прапанаваць міжнародным фондам і ўрадам дэмакратычных краінаў замарозіць усялякія крыдыты і фінансавую дапамогу Расеі, пакуль ня будуць спыненыя дзеяньні зь яе боку па інкарпарацыі Беларусі і аб'яднаньні з дыктатарскім рэжымам Лукашэнкі.

Мы заўляем, што перамовы з выканаўчымі ўладамі на Беларусі немагчымыя без выкананьня Лукашэнкам першаснай папярэдняй умовы — спыненьня ўсіх дзеяньняў, накіраваных на ліквідацыю сувэрэнітэту Беларусі і на аб'яднаньне з Расеяй.

Становішча ў Беларусі абвастраецца. Усялякі замах на беларускую незалежнасьць, зроблены Масквой пры дапамозе дыктатарскага рэжыму Лукашэнкі, не застанецца без адказу. Беларусі народ, моладзь, актыўнае грамадзтва будуць змагацца ўсімі даступнымі мэтадамі, усімі спосабамі за сваю дзяржаву і свабоду.

**ЗЯНОН ПАЗЬНЯК**
**Старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» і Партыі БНФ**

*15—19 лістапада 1999 г.*
*г. Менск*

## ЭФЭКТ «МАРШУ СВАБОДЫ — КАНСАЛІДАЦЫЯ АПАЗЫЦЫІ

«Апазыцыя ўшчыльняе рады» — пад гэткім загалоўкам бэльгійская газэта *La Libre Belgique* (22 кастрычніка) зьмясціла рэпартаж свайго маскоўскага карэспандэнта Барыса Туманава пра «Марш Свабоды» ў Менску ў нядзелю 17 кастрычніка. Паводле Туманава, гвалт над дэманстрантамі, які адбыўся на менскіх вуліцах, кампраметуе расейскія геапалітычныя праекты ў дачыненьні да Беларусі, як і намаганьні эўрапейскіх міжнародных арганізацыяў, асабліва Арганізацыі па бясьпецы і супрацоўніцтву ў Эўропе (АБСЭ), падбадзёрыць Лукашэнку да дыялёгу з апазыцыяй. У Расеі, дзе бальшыня палітычнай эліты хацела-б бачыць аб'яднаньне дзьвюх славянскіх краінаў, нядзельны інцыдэнт аднавіў сумлевы што да патрэбы аб'яднаньня з рэжымам, які яшчэ раз праявіў свой рэпрэсійны характар, але з другога боку змабілізаваў расейскіх камуна-патрыётаў на абарону Лукашэнкі.

Іншыя-ж расейскія палітыкі, менш апантаныя ідэяй тэрытарыяльнага рэваншу, зьвяртаюць увагу на тое, што менская маніфэстацыя сабрала больш за 20.000 людзей ды што гэты пратэст быў каталізаваны наважанасьцяй беларускіх нацыяналістаў супрацівіцца аб'яднаньню Беларусі з Расеяй. А Уладзімір Лукін, старшыня думаўскага камітэту па міжнародных справах уважае, што калі праект аб'яднаньня будзе зрэалізаваны, Расея можа атрымаць на Беларусі «другую Чачню», паколькі значная частка беларускага грамадзства адмаўляецца ахвяроўваць незалежнасьцю свае краіны ў імя панславізму.

Разам з тым, дубінкавы пабой, што атрымала ў нядзелю беларуская апазыцыя, якая да гэтага часу была падзеленая й здэзарганізаваная, скансалідавала свае рады. Туманаў піша, што палітычная сытуацыя ў Беларусі можа стацца больш напружанай, бо пасьля нядзельных драматычных здарэньняў беларуская нацыянальна-дэмакратычная апазыцыя можа адкінуць сваю традыцыйную ўмеркаванасьць ды перайсьці да адкрытага й сыстэматычнага змаганьня супраць рэжыму. **Я.Ж.**

## ДА ГІСТОРЫІ ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

28 лістапада 1948 году, 14 маладых новапрыбылых ў Канаду беларусаў сабраліся ў прыватным памешканьні й пастанавілі заснаваць Згуртаваньне Беларусаў у Канадзе. Ініцыятарам і кіраўніком ініцыятыўнае групы быў Кастусь Акула. Вось гэтая група ў сакавіку наступнага 1949 году адзначыла, магчыма першы раз у гісторыі Канады, Дзень Незалежнасьці Беларусі — 25 САКАВІКА. А 28 травеня 1949 г. адбыўся ў Таронта Першы Агульны Зьезд ЗБК, пасьля якога былі заснаваны аддзелы ЗБК у Таронце, Гамільтоне, Лёндане, Ашаве, Садбуры й Мантрэалі. Гэтак у Канадзе пачыналася беларуская нацыянальная дзейнасьць.

Падсумоўваючы кароткі нарыс дзейнасьці за паўстагодзьдзе, беларусы-канадыйцы:

1. Стварылі сетку беларускіх нацыянальных арганізацыяў у Канадзе, сарганізавала прыход Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўная Царквы, набылі маемасьць у Таронта й Пэры Саўнд – Случак.

2. Бярэм арганізаваны ўдзел у канадзкім жыцьці.

3. Супрацоўнічаем з Бацькаўшчынай—Беларусяй.

4. Ды найважнейшее, захавалі й развіваем сваю родную **беларускую мову** й культуру, культывуем **гістарычную памяць**, як сьвятасьць славім **беларускую гістарычную сымболіку: бел-чырвона-белы сьцяг і Пагоню**. Захавалі й і дзеім па лініі **беларускай незалежніцкай ідэялёгіі**.

А нашчадкам пакідаем запавет, які даў нам бацька беларускага адраджэньня ФРАНЦІШАК БАГУШЕВІЧ: «НЕ ПАКІДАЙЦЕ МОВЫ НАШАЙ РОДНАЙ БЕЛАРУСКАЙ, КАБ НЯ УМЕРЛІ!»

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## 37-Ы ЗВЫЧАЙНЫ АГУЛЬНЫ ЗЬЕЗД СЯБРОЎ І ДЭЛЕГАТАЎ ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

**31-га кастрычніка, 1999, у Таронта**

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

У ВАБЛІЧЫ ТАГО

— што незалежнасьць нашае Бацькаўшчыны — Рэспублікі Беларусь — знаходзіцца пад загрозай, бо дыктатар Аляксандар Лукашэнка праводзіць працэсы «інтэграцыі» Беларусі ў суседнюю дзяржаву — Расею;

— што Аляксандар Лукашэнка імкнецца прысьпешыць працэс «-інтэграцыі» Беларусі з Расеяй таму, што «старэйшее пакаленьне адыходзіць, а малодшае не падтрымоўвае ідэі злучэньня Беларусі з Расеяй»;

— што тэкст дамовы злучэньня Беларусі з Расеяй, апублікаваны 8 кастрычніка 1999 году, прадбачвае сьпешную інкарпарацыю Беларусі ў Расею перад канцом 1999 году;

— што жыхары Беларусі рызыкуючы сваім жыцьцём, наражаючся на катаваньні, арышты, турмы й агромныя грашовы штрафы, выйшлі масавай дэманстрацыяй 17 кастрычніка, 1999, на вуліцы Менску пратэставаць супраць злучэньня Беларусі з Расеяй, супраць ламаньня Лукашэнкам правоў чалавека й вольнасьцяў у Беларусі;

— паводле апошніх неафіцыяльных падлікаў, большасьць беларусаў ёсьць супраць злучэньня Беларусі з Расеяй;

згодна с Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, Лукашэнкаў пяцігодні тэрмін прэзыдэнцтва Беларусі скончыўся 20 ліпеня, 1999 году, і ён болей ня ёсьць рэпрэзэнтантам народу Беларусі.

Мы, УДЗЕЛЬНІКІ 37-га АГУЛЬНАГА ЗЬЕЗДУ ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

— пратэстуем супраць дыктатарскага рэжыму А. Лукашэнкі, супраць безагляднага ламаньня правоў чалавека, супраць дыскрымінацыі ды перасьледаваньня беларускае мовы й культуры ў Беларусі;

— мы салідарызуемся з суродзічамі ў Беларусі — у іхнім змаганьні супраць намераў бышага Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, Аляксандра Лукашэнкі, ліквідаваць незалежнасьць Рэспублікі Беларусь, супраць улучэньня яе ў другую дзяржаву — Расею;

— мы заўсёды верныя Радзе і Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі, начале зь яе Прэзыдэнтам, спадарынай Івонкай Сурвілла, якая ёсьць сяброўкай Згуртаваньня Беларусаў Канады. Мы салідарызуемся з Апазыцыяй Беларусі ў вабароне дзяржаўнай незалежнасьці Рэспублікі Беларусь;

— мы падтрымоўваем Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву зь яе першаепархам Праасьвяшчэнным Мітрапалітам Уладыкам Мікалаем;

— мы дзякуем тым народам сьвету, якія выказваюць дапамогу беларусам у цяжкіх часох іхняе гісторыі, мы дзякуем асабліва сябром канадыйцам, якія ад 1989 году выказаюць так патрэбную дапамогу ахвярам Чарнобылю ў Беларусі;

— мы просім Урад Канады ды ўсе урады вольнага сьвету памагаць Беларусі стацца вольнай, незалежнай дэмакратычнай дзяржавай Эўропы.

**За ўдзельнікаў 37 Зьезду ЗБК** **Старшыня Зьезду**




*Адзначэньне ўгодкаў БАЗА ў Нью Ёрку*

# 50 ГАДОЎ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАМУ ЗАДЗІНОЧАНЬНЮ

## Зь гісторыі БАЗА

Беларуска-Амэрыканская Задзіночаньне — найбуйнейшая беларуская арганізацыя ў ЗША — была заснаваная **у 1949 годзе ў Нью Ёрку**. Першая, падрыхтоўчая зборка адбылася ў чэрвені ў Брукліне, а **31 ліпеня** ў гішпанскай частцы Гарлему на 100-й Іст вуліцы ў Мангатане адбыўся арганізацыйны сход, на якім і была ўтвораная БАЗА. Закладальнікамі БАЗА былі **Мікола Гарошка, Мікола Дарашэвіч, Уладзімір Машанскі, др. Янка Станкевіч, Янка Ніхаёнак, др. Аляксандар Орса, Міхась Тулейка**.

**У 1950 годзе** арганізацыя атрымала **чартэр**, г. зн. афіцыйнае прызнаньне з боку амерыканскіх уладаў.

**20 верасьня 1950 году** зьявіўся першы нумар друкаванага органу БАЗА — **газэта «Беларус»**.

**У 1950-1953 гады** ўзьнiклі аддзелы **ў Мангатане, Брукліне, Мэспэце** (Кўінз), якія пазьней былі аб'яднаныя ў **Нью Ёркскую акругу** БАЗА.

**У 1951 годзе** быў заснаваны аддзел у **Клiўлэндзе** (Огаё).

**15 кастрычніка 1957 году** беларуская грамада Нью Ёрку набыла будынак пад **Беларускі Народны Дом** і **сабор Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на 401 Атлантык авэню ў Брукліне**.

**У 1950-х гадох** паўсталі аддзелы таксама у **Нью Брансўіку** й **Саўт Рывэры** (Нью Джэрзы), **Дэтройце** (-Мічыган), **Стамфардзе** (Канэтыкат), **Бікане** (Нью Ёрк), **Спрынгфілдзе** (Масачусэц), **Пэорыі** (Ілiной), дэлегатуры ў **Джэрзы Сіты** (Нью Джэрзы), **Атланце** (Джорджа).

**У 1953—1958 гадох Згуртаваньне Беларусаў у Штаце Іліной** фактычна зьяўлялася Чыкагскім аддзелам БАЗА й падпарадкоўваласая Галоўнай Управе БАЗА.

З **1957 году** дэлегацыя БАЗА на чале са сьвятаром БАПЦ пачала наведваць **Кангрэс Злучаных Штатаў Амэрыкі** на ўгодкі абвешчаньня Акту Незалежнасьці Беларусі — 25 Сакавіка.

**У 1959 годзе** ўзьнік **Лос Анджэлескі аддзел** (Каліфорнія).

**У 1965 годзе** былі створаны **Лонг Айлэндзкі аддзел**, які ў 1975 годзе ўліўся ў Нью Ёркскую акругу.

**У сярэдзіне 60-х** існаваў аддзел у **Новай Англіі**.

**У 1976 годзе** дэлегацыя БАЗА брала ўдзел у **Сусьветным Эўхарыстычным Кангрэсе ў Філадэльфіі** (Пэнсыльванія).

**У 1979 годзе** паўстаў аддзел у **Вашынгтоне** (акруга Калумбія).

**У ліпені 1999 году** быў адноўлены **аддзел у Новай Англіі** (Бостан, Масачусэтс).

### Старшыні Галоўнае Ўправы БАЗА

| | |
|---|---|
| † **Мікола Гарошка** | *1949—1952*<br>*1965—1967* |
| † **Францішак Кушаль** | *1952—1954* |
| † **Міхась Тулейка** | *1954—1957* |
| † **Мікола Кунцэвіч** | *1957—1959* |
| **Канстанцін Мярляк** | *1959—1963* |
| † **Станіслаў Станкевіч** | *1963—1965* |
| **Уладзімер Курыла** | *1957—1969* |
| **Вячаслаў Станкевіч** | *1969—1971* |
| **Расьціслаў Гарошка** | *1971—1975* |
| **Антон Шукелойць** | *1975—* |

### Старшыні Нью Ёркскага Аддзелу (Акругі) БАЗА

| | |
|---|---|
| *1953—1954* | **Вітаўт Тумаш** † |
| *1954—1958* | **Канстанцін Мярляк** |
| *1958—1959* | **Язэп Пазьняк** † |
| *1959—1960* | **Даніла Клінцэвіч** † |
| *1961—1964* | |
| *1960—1961* | **Мікола Абрамчык** |
| *1964—1968* | **Уладзімір Набагез** |
| *1968—1970* | **Міхась Тулейка** † |
| *1970—1974* | **Мікола Кунцэвіч** † |
| *1975—1980* | |
| *1974—1975* | **Антон Шукелойць** |
| *1980—1982* | **Уладзімір Русак** |
| *1982—1997* | **Аляксандар Міцкевіч** |
| *1997—1998* | **Марат Клакоцкі** |
| *1998* | **Віталь Зайка** |

## ПРАГРАМА СЬВЯТКАВАНЬНЯ

**1**

**Урачыстая акадэмія**
*Вядуць Ала Кузьміцкая й др. Янка Запруднік*

**Амэрыканскі гімн**

**Адкрыцьце ўрачыстае акадэміі**
*Старшыня Нью Ёркскага аддзелу БАЗА Віталь Зайка*

**Прывітаньні**

**Рэфэрат**
«50 гадоў БАЗА: роля ў нацыянальным руху»
*др. Вітаўт Кіпель*

**Ушанаваньне старшыняў**
Галоўнае Ўправы БАЗА й Нью Ёркскага аддзелу (акругі) БАЗА ды найстарэйшых актыўных сяброў арганізацыіі

**Спамін сяброў БАЗА, што адышлі**
Хвіліна цішы

**2**

**Абед**
*(буфет)*

**3**

**Выступы выканаўцаў**

**4**

**Паказ беларускіх народных строяў**
*пад кіраўніцтвам Веры Бартуль, др. Аллы Орсы Романо, Валянціны Якімовіч*

**Беларускі нацыянальны гімн**

**5**

**Танцы**

На сьвяткаваньні гучыць музыка *Зьміцера Яўтуховіча Аляксандра Балотніка*

## СЬВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ АЛЯКСАНДАР БАХАНЧЫК
**(22.5.1926 — 19.8.1999)**

Аляксандра Баханчыка, сына Язэпа і Веры з Гарадзеі, дзе нарадзіўся, давялося пазнаць падчас Другой Сусьветнай вайны ў менскай Школе Камандзераў БКА. У Эльзасе, бальшыня з нас перайшла да францускіх партызанаў, а пасьля ў другім корпус ген. Андэрса ў Італіі пад брытанскай камандай. Аляксандар Баханчык трапіў у шэрагі ген. Уласава, што вызвалялі чэскую Прагу ў 1945 годзе напачатку травеня. Адтуль высланы ў Інту, Гулаг, дзе працаваў у вугольных капальнях, завочна вучыўся ў ленінградзкім вышэйшым тэхнічным інсты-0туце, атрымаў дымлём, які дазволіў яму працаваць у Інце галоўным інжынерам у капальні.

Яшчэ ў 1956 годзе нябожчык быў вярнуўся ў Гарадзею, але тут «ворагу народу» не далі працы, таму мусіў прадаўжаць у Гулагу аж да 1976 году.

Аляксандар быў вялікім беларускім патрыётам, падтрымліваў сваю прэсу, пісьменьнікаў, навукоўцаў, а пасьля развалу «Імпэрыі зла» пісаў у расейскамоўныя газеты ў Маскве і ў Менску, трымаў сувязь іх суродзічамі, што падтрымлівалі незалежнасьць Рэспублікі Беларусь.

Апошнім годам змагаўся зь фізычнымі нямогласьцямі, ды ўсё яшчэ маліўся, прасіў Госпада, каб дачакацца таго часу, калі зноў Пагоня й бел-чырвона-белы сьцяг зайвмуць сваё належнае месца ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь, а чужое, варожае адыйдзе ў нябыт!

Заслужыў Аляксандар Баханчык пашану ў нашага народу, удзячнасьць і вечную памяць! З Богам! Вечнага Супачыну, дарагі Сябра!

Радні выказваю сваё спачуваньне.

**Кастусь Акула**

---

**Дарагія суайчыньнікі!**

Беларускае выдавецтва «Беллітфонд» рыхтуе да выданьня ці не самую важную для Беларусі кнігу — «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае» Мікола Ермаловіча. Гэтай кнігай выдатнага гісторыка і пісьменніка мы вернем беларускаму народу яго велічную гісторыю, абылганую, да непазнавальнасьці перакручаную расейскімі імпэрыялістамі, фактычна бессаромна ўкрадзеную ў нас, вернем наш нацыянальны гонар і славу. Мы хочам зрабіць кнігу багата ілюстраванай, добра аздобленай, з належным накладам — каб яе прачытвала як мага больша людзей, каб яна ўвашла ва ўсе школы і масавые бібліятэкі Беларусі.

У кнізе будзе 400 старонак фармата 84х108 1/32, Наклад хацелася б даць не меньш 6000 асобнікаў. Паводле папярэдніх падлікаў каштаваць выданьне гэтай кнігі будзе не менш 6000 даляраў ЗША. Да патрэбнай сумы нам не хапае $1500.

Ці не маглі б вы, дарагія суайчыньнікі, дапамагчы нам сабраць сродкі на выпуск надзвычайнай важнай ў сёньняшняй сітуацыі кнігі Міколы Ермаловіча — з красамоўнай назвай «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае»?

Ваш удзел у выданьні гэтай кнігі будзе адзначаны на яе старонках. Есе, хто дапаможа, атрымаюць асобнік кнігі з аўтографам аўтара.

Нам. дырэктара Беллітфонда

**Мікола Міхноўскі**

Ад рэдакцыі: ахвяраваньні дасылайце, калі ласка, на адрэсу БІНІМ ці на адрэсу газэты.

---

## «ТВОРЫ» АНТОНА АДАМОВІЧА

рыхтуюцца да 90-х угодкаў літаратара, пісьменьніка і грамадскага дзеяча ў БІНІМе. У гэтым выданьні шмат што можа быць адкрэсьлена словам *упершыню*. Упершыню ў беларускай мове друкуецца самая вядомая кніга Ан. Адамовіча «-Супраціў саветызацыі ў беларускай літаратуры». Трэба адзначыць, што гэтая публікацыя не зьяўляецца проста перакладам кнігі: у архівах пісьменьніка знойдзены манускрыпт расейскамоўнага варыянта працы, які паўнейшы за друкаваны англамоўны. Упершыню поўнасьцю друкуецца праца, прысьвечаная творчасьці паэта Алеся Салаўя «Мастак нятускнае красы». Упершыню ў кнізе падаецца найбольш поўная на сёньня бібліяграфія Ан. Адамовіча. Упершыню друкуюцца ягоныя ўспаміны «Мой рахунак ім», невядомая аўтабіяграфія пісьменьніка, матар'ялы з архіваў ГПУ й FBI. У кнізе будуць зьмешчаны ня толькі невядомыя фотаздымкі Антона Адамовіча, Алеся Салаўя, але й здымкі з архіваў БІНІМу беларускіх пісьменьнікаў 20-30х гадоў: Алеся Дудара, Валерыя Маракова, Міхася Зарэцкага ды іншых.

Разам з тым відавочна, што юбілейнае выданьне можна ўзбагаціць, зрабіць том выбраных працаў аднаго з найбольш выбітных дзеячоў нашае эміграцыі паўнейшым, сапраўды прадстаўнічым. У гэтай справе укладальнік кнігі зьвяртаецца з просьбаю — дасылаць рукапісы, лісты, фотаздымкі, асабістыя ўспаміны пра Антона Адамовіча, іншыя матар'ялы, парады, якія маглі-б паспрыяць удасканаленьню кнігі, на адрас:

Liavon Yurevich
204 Ave N
Brooklyn NY 11230
E-mail: *lyurevich@nypl.org*
Tel.: 1-718-645-9436
Fax: 1-718-375-7052

## АНОНС

У друку знаходзяцца чародны 24 выпуск «Запісаў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва» наступнага зьместу:

Васіль ЗАХАРКА, **Галоўныя моманты беларускага руху**; Лявон ЮРЭВІЧ, **Зацемкі на маргінэсе найноўшае гісторыі.** *Новые імёны да біябібліяграфічнага даведніка «Беларускія пісьменьнікі*; а. Леў ГАРОШКА, **Праз навальніцы й нягоды. Беларускія сьвятары й рэлігійныя дзеячы Беларусі**; Сяргей ХМАРА, **Кароткія даныя аб сабе**; Апалёнія САВЁНАК, **Прыпамінаю**; Вольга ТАПОЛЯ, **Лісты да Юркі Віцьбіча**; Зьміцер САЎКА, **Стараславянска-беларускі слоўнік,** *Праект*; Віталь ЗАЙКА, **Габрайскія мэмарыяльныя кнігі пра гарады й мястэчкі Беларусі**; Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ, **Развагі над пошукамі крыжа Эўфрасіньні Полацкай; Хроніка навукова-культурнага жыцьця ў замежжы (1996-1997).**

---

Шчыра вітаем паважаную й дарагую

спадарыню **ЯНІНУ КАХАНОЎСКУЮ,**

даўгагадовую працаўніцу на грамадзкай ніве,
зь 90-мі ўгодкамі плённага жыцьця,
жадаем добрага здароўя і ўсякае памыснасьці.

*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
*Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва*
*Рада Беларускае Народнай Рэспублікі*
*Рэдакцыя газэты «Беларус»*

---

Шчыра вітаем паважанага

др. **УЛАДЗІМЕРА НАБАГЕЗА,**

актыўнага ўдзельніка нацыянальна-вызвольнага змаганьня,
грамадзкае й палітычнае дзейнасьці,
зь 80-мі ўгодкамі жыцьця,
жадаем добрага здароўя і ўсякае памыснасьці.

*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
*Рада Беларускае Народнай Рэспублікі*
*Рэдакцыя газэты «Беларус»*
*Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва*
*Сябры*

---

Шчыра вітаем паважаную

др. **РАІСУ ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ,**

даўгагадовую дзяячку на нацыяльна-культурнай ніве
зь 80-мі ўгодкамі плённага жыцьця,
жадаем добрага здароўя і ўсякае памыснасьці.

*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
*Рада Беларускае Народнай Рэспублікі*
*Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва*
*Рэдакцыя газэты «Беларус»*
*Сябры*

## АХВЯРАВАНЬНІ

**На газэту «Беларусь»**

| | |
|---|---|
| К. Акула (у памяць Аляксандра Баханчыка) | 100 |
| Васіль Плескач | 100 |
| Т. Паланевіч, (у памяць мужа Іпаліта) | 130 |
| Я. Юхнавец | 40 |
| С. Буткевіч | 40 |
| К. і М. Верабей | 20 |
| айцец В. Андрэюк | 20 |
| С. і Н. Дудар | 30 |
| Ю. Найдзюк | 30 |
| Р. Галяк | 30 |
| В. і М. Яцэвіч | 30 |
| Г. Лорэнцо | 30 |
| О. і Л. Яськевіч | 30 |
| В. Мельяновіч | 30 |
| М. Калядко | 40 |
| М. Далековіч | 50 |
| В. Навіцкі | 50 |
| Л. Біленіс | 50 |
| К. Пануцэвіч | 50 |
| М. Вайтовіч | 50 |
| У. Ракуль | 50 |
| М. і Т. Грынчук | 50 |
| Н. і А. Жызьнеўскі | 50 |
| В. Заморская | 50 |
| В. і М. Эфремкоў | 50 |
| А. Субота | 50 |
| В. і І. Ільшчук | 60 |
| П. Касаты | 90 |
| В. Махнач і Г. Чарнэцкі | 100 |
| М. Смаршчок | 100 |
| В. Арэхва | 30 |
| Лукан Мэталь Прадукцыя | 500 |
| І. Панская | 10 |

**На Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ($)**

| | |
|---|---|
| А. Сільвановіч | 100 |
| Др. Ю. Набагез | 200 |
| С. і К. Вініцкія | 200 |
| др. М. Смаршчок | 200 |
| В.М. | 500 |
| Л. і С. Мурог | 200 |
| Хв. Кажаневіч | 100 |
| З. смаршчок | 200 |
| М. і В. Пашкевіч | 100 |
| М. Грэбень | 50 |
| Р. Завістовіч | 25 |
| Ю. Найдзюк | :/ |
| І. Сурвілла | 150 |
| М. Швэдзюк | 20 |
| Л. Літаровіч | 50 |

Марыя Ганько у памяць мужа Міколы ахвяравала $100 для падпіскі на 2 тамы «Архіваў БНР» для аднэй зь бібліятэкў у Беларусі.